

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*

# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 26 (565) 10 ЛІПЕНЯ 2002 г.

# 120 гадоў з дня нараджэння Янкі Купалы

## *Рэспубліканскае свята паэзіі ў Вязынцы*




З усіх мерапрыемстваў і імпрэзаў да 120-х угодкаў Янкі Купалы Рэспубліканскае свята паэзіі на радзіме песняра ў Вязынцы вызначалася перш за ўсё размахам і масавасцю. Сотнямі аўтамабіляў і аўтобусаў былі застаўлены ўсе пад'езды да Купалаўскага музейнага комплексу.

На галоўнай сцэне паэты, пісьменнікі, творчыя калектывы, барды.

Беларускія песні, танцы, музыка на галоўнай пляцоўцы, на сядзібе песняра, ля помніка Купалу.

Песні на словы Купалы, песні на гонар Купалы.

Кірмаш вырабаў народных промыслаў, вернісаж жывапісу, бясконцыя гандлёвыя намёты, у якіх, праўда, былі ўжо не нацыянальныя стравы, а шашлыкі іншаземныя, але смачныя, што праўда.

І мовы беларускай дастаткова, і сцяг бел-чырвона-белы, хоць адзін, і чырвона-зялёнага ніводнага. Паводле настрою, што панаваў на свяце, можна смела сцвярджаць, што Купала -- не толькі народны, а і ўсенародны паэт.

**Наш кар.**

*(Працяг тэмы на ст. 3.)*



# САЮЗУ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ

Таварыства беларускай культуры ў Літве ўважліва сочыць за тым, як рэжым у Беларусі адносіцца да адраджэння беларускай культуры, беларускага школьніцтва, нашай гісторыі, да беларускіх пісьменнікаў, якіх на працягу апошняга стагоддзя масава знішчалі антыбеларускія рэжымы.

Цяпер фактычна ідзе ліквідацыя беларускай мовы і беларусаў, як нацыі.

Прадстаўнікі ўладаў і культуры, што на пачатку 90-х гадоў загаварылі па-беларуску, у апошнія гады перайшлі на рускую мову.

Ужо не толькі прэзідэнт, але ніводзін міністр, дэпутат ці чыноўнік не гаворыць па-беларуску. Якая ж гэта ганьба! Нам сорамна за тое, што адбываецца на нашай гістарычнай радзіме.

Мы жывём у Літве і бачым зусім іншыя адносіны ўладаў да літоўскай мовы, да носьбітаў культуры, пісьменнікаў.

З другога боку асуджаем тых пісьменнікаў у Беларусі, якім не хапіла мужнасці ў крытычны момант салідарна выйсці на абарону сваёй маёмасці – Дома пісьменнікаў. Каму яны будуць пісаць, калі не будзе каму чытаць?

Мы выказваем рашучы пратэст супроць беззаконня ўладаў і патрабуем вярнуць Дом пісьменнікаў законным гаспадарам.

***Падпісалі сябры Рады ТБК:***

*Карабач Сяргей*
*Мілаш Леакадзія*
*Місюк Валеры*
*Нюнька Хведар*
*Саковіч Вольга*
*Саўчанка Павел*
*Старавойтаў Андрусь*
*Трусаў Аляксандар.*

***г. Вільня.***

# Беларускую службу Радыё Палёнія хочуць зачыніць!

Кіраўнік польскай дыпламатыі на пытанне польскага радыё пра сапраўднасць чутак аб ліквідацыі Радыё Палёнія, фінансаванага Ведамствам замежных справаў адказаў:

“У сувязі з тым, што міністр замежных справаў, згодна з законам адказвае за дзейнасць Радыё Палёнія і Тэлевізіі Палёнія ды прызначае дзеля гэтага сродкі, я хацеў-бы, каб за гэтыя грошы быў рэалізаваны прадукт, які даходзіць да адрасата. Я размаўляю з палякамі рассеянымі па ўсім свеце і да гэтай пары я не сустэў гэткай асобы, якая слухае Радыё Палёнія. Таму я хацеў бы, каб передачы гэтай праграмы былі рэалізаваныя ў больш эфектыўнай форме. Напрыклад, шляхам Інтарнэту можна было б пастаўляць передачы ў польскія Дамы культуры за мяжой. Тыя ж самыя людзі павінны рэалізаваць тыя ж самыя передачы, але яны павінны даходзіць да слухача з выкарыстаньнем зусім іншых тэхналогіяў. Передаванне нечага ў эфір з наіўнай надзеяй, што можа нехта гэта пачуе, мяне не задавальняе. А я ведаю, што мала хто слухае передачы Радыё Палёнія” – заявіў кіраўнік польскай дыпламатыі Ўладзімеж Цімашэвіч.

# Падпіска скончылася... Падпіска працягваецца

Цягам другога паўгоддзя гэтага года “Наша слова” штотыднёва будуць атрымліваць суполкі ТБМ, базавыя і сярэднія школы Горадні ды Гарадзенскага раёна – усяго 70 арганізацый. Такое стала магчымым дзякуючы клопату кіраўнікоў абласной і раённай структур ТБМ Алеся Місцюкевіча ды Янкі Будніка пры падтрымцы мясцовых дабрадзеяў – прыхільнікаў і абаронцаў роднага слова: супрацоўнікаў РУП “Гродна-энерга” і яго філіялаў, ПКФ “Свідравіна”, ПКФ “Каніякі-Электра”.

Вялікі дзякуй Вам, дарагія сябры, за своечасовую дапамогу. Рэдакцыя газеты спадзяецца, што ў нашых гарадзенскіх дабрадзеяў знойдуцца паслядоўнікі. Падпісацца на “Наша слова” ніколі не позна.

**Наш кар.**

Беларуская мова- ТБМ наша будучыня

## *Ахвяраванні на ТБМ*

***навучэнцаў Смілавіцкага с/х тэхнікума***

1. Валовіч Ганна - 400р.
2. Каган Вольга - 400р.
3. Вераб'ёва Валянц.- 400р.
4. Мартыненка Кац. - 400р.
5. Машоўская Ірына- 400р.
6. Клішко Сяргей - 500р.
7. Воўчак Алеся - 400р.
8. Іўжэвец Яўген - 400р.
9. Буцько Ілля - 400р.
10. Мацэвіч Ал-др - 400р.
11. Фозун Надея - 400р.
12. Сасноўская Свят.- 400р.
13. Кулаков Юры - 500р.
14. Курачкін Ігар - 500р.
15. Лысы Ал-др - 2000р.
16. Біцька Мікалай - 400р.
17. Міцько Уладзімір -400р.
18. Гляцэвіч Ігар - 400р.
19. Крэсцін Яўген - 400р.
20. Салавей Вольга - 400р.
21. Крэмень Ал-др - 400р.
22. Скрыт Святл. - 400р.
23. Краўчанка Св. - 400р.
24. Лухверчык Вікт. - 400р.
25. Бальнікаў - 400р.
26. Арловская Воля - 400р.
27. Кузіна Юлія - 400р.
28. Нежавец Святл. - 400р.
29. Парваткіна Юля - 400р.
30. Чаркас Воля - 400р.
31. Гулькевіч А. - 400р.
32. Карпенка - 50р.
33. Смаленскі Сярг. - 400р.
34. Саўчыц Вольга - 400р.
35. Данілевіч Т. - 400р.
36. Макоўскі А. - 400р.
37. Матлевіч А. - 400р.
38. Пуневіч С. - 400р.
39. Іракевіч А. - 500р.
40. Парус А. - 400р.

Падтрымаць ТБМ – справа гонару кожнага грамадзяніна краіны.

**Віншуем з днём народзінаў сяброў ТБМ, што прыйшлі на свет у ліпені**

Яўгена Васільца
Вінцука Вячорку
Сяргея Гуркова
Іну Дрожынаву
Валянціну Корзун
Аляксандра Місцюкевіча
Вольгу Нікалаеўскую
Таццяну Пашкевіч
Пятра Русава



№ 26 (565) 10 ЛІПЕНЯ 2002 г. наша СЛОВА

# ЛЯВОН КРЫВІЧАНІН

## (Да 105 - годдзя з дня нараджэння)

Імя Лявона Крывічаніна вярнулася на Бацькаўшчыну пасля паўвекавога небыцця яшчэ напачатку 90-х і было ўведзена ў энцыклапедычны бібліяграфічны слоўнік "Беларускія пісьменнікі" ў 6 т. (Т. 6, 1995) . Творчая спадчына гэтага выдатнага пісьменніка – сатырыка, беларускага грамадскага дзеяча, таленавітага журналіста, рассыпаная па шматлікіх часопісах, газетах і на Беларусі, і на эміграцыі, была сабрана і выдадзена Беларускім інстытутам навукі і мастацтва (Нью-Ёрк, 1988). Ужа сама назва кнігі "Беларусізацыя пад № ...", несучы ў сабе балючы падтэкст, горкую іронію, гаворыць пра абвостраныя да трагізму праблемы беларусізацыі на Беларусі, якія, на вялікі жаль, не страцілі сваёй актуальнасці і па сённяшні дзень. Аснову кнігі якраз і складаюць сатырычныя творы пісьменніка, прысвечаныя змаганню беларусаў за існаванне роднай мовы ("Беларусізацыя пад №...", "Рэжым у беларусізацыі", "Рассуждения о белорусизации. (З запісной кніжкі "спэца"), "Таварыш Мытніца", "Трагедыя чыноўніцкай душы"). У кнігу ўключаны і фельетоны сацыяльна-пабытовай праблематыкі, з першага зборніка Лявона Крывічаніна "Чароўная іголка", які быў выдадзены на Беларусі ў 1929 годзе, а таксама творы, напісаныя падчас вайны і на эміграцыі ("Запіскі эмігранта", "З дзённіка Ів.Ів. Чужанінава, "З лірай насустрач", "Што рабіць", "Ліст у рэдакцыю пра кансалідацыю", "Крыжавою дарогаю"). І дома, і ўдалечыні ад яго пісьменніка хваляваў лёс Бацькаўшчыны, лёс той зямлі, дзе жылі бацькі і дзеды, дзе прайшлі дзіцячыя, юнацкія гады, пачынаўся творчы шлях выдатнага беларуса. А нарадзіўся Лявон Крывічанін (сапраўднае прозвішча – Лявон Вікенцьевіч Савёнак) у вёсцы Вялец, на Глыбоччыне, 26 чэрвеня 1897 года ў сялянскай сям'і. Вучыўся ў Глыбокім, куды пасля смерці бацькі пераехаў з маці і сястрой. Скончыў Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю (1914-1917) разам з будучымі вядомымі дзеячамі: М. Чаротам, С. Рак-Міхайлоўскім, П. Мятлой, Ф. Валынцом. Некаторы час настаўнічаў, а потым ён, па прапанове У. Ігнатоўскага, стаў працаваць у газеце "Савецкая Беларусь", якая выходзіла тады на беларускай мове, і ў рэдакцыі якой былі М. Чарот, З. Бядуля, друкаваліся многія беларускія пісьменнікі, журналісты. Адбываюцца змены і ў асабістым жыцці – Лявон Савёнак ажаніўся з настаўніцай-мянчанкай Апалёніяй Радкевіч, сяброўкай Уладзіславы Францаўны – жонкі Янкі Купалы. У маладой сям'і нарадзіліся дзеці: сын –1922 г. і дачка Зора –1927 г.; цяпер вядомая дзеячка беларускай літаратуры.

Дваццатыя гады былі адносна спрыяльнымі для беларускай справы і, па словах Л. Савёнка, "найбольш плённымі ў нашым нацыянальным вызваленні. Разбуджаны адраджэнствам нашаніўскае пары, узняты на вышэйшую ступень Актам Незалежнасці, вызвольны рух падняў з родных пластоў такую магутную нацыянальную сілу, якая здолела на працягу дзесяцёх год прарабіць работу стагоддзя. У гэтую пару на заходняй дзялянцы Краіны стотысячная народная Грамада сфармавалася ў паважную сілу, якая здольна была кіраваць усім нацыянальным жыццём. Ува ўсходняй дзялянцы ўсе пляцоўкі дзяржаўна-гаспадарскага культурнага жыцця былі ў нацыянальных руках. Да 30-га году беларускі народ быў цалкам падрыхтаваны да самастойнага жыцця..."

Дзеля разгортвання гэтага нацыянальнага жыцця шмат працаваў і Лявон Савёнак. Ён знаходзіўся ў самай яго гушчыні, ездзіў па вёсках і гарадах, пісаў рэпартажы, пароды, артыкулы, фельетоны, нарысы, апавяданні, якія з 1927 года пачалі рэгулярна друкавацца на старонках газет і часопісаў, а пазней увайшлі ў яго першы празаічны зборнік "Чароўная іголка", які выйшаў у Менску ( пад псеўданімам – Леанід Свэн, 1929 г.). Большасць сатырычных твораў "Чароўнай іголкі" не страцілі сваёй значнасці і да сённяшняга дня. Яны былі напісаны ў рэчышчы фармавання беларускага сатырычнага слова, талентаў К. Крапівы, П. Труса, А. Мрыя, пад уплывам сатырычнай, гумарыстычнай плыні творчасці Я. Купалы, Я. Коласа, В. Дуніна-Марцінкевіча.

Сатыра Леаніда Свэна (Л. Савёнка) з'яўлялася не толькі сродкам высмейвання шматлікіх пабытовых праблем і недахопаў, а найперш служыла нацыянальным мэтам. Асуджаючы такія заганы ў чалавечых характарах, як п'янства, пляткарства, распусту, гультайства, пісьменнік падступаецца да выкрыцця ўседазволенасці савецкіх начальнікаў, іх мясцавых "кульцікаў". У сацыяльна-завостраным, акарыкатураным плане паўстаюць вобразы чыноўнікаў, якія "кіравалі" культурай, "выводзілі" вёску на шлях сацыялізму. Аб'ектам сатырычнага выкрыцця, акрамя сацыяльна-шкодных з'яў, у фельетонах, артыкулах Л.Савёнка выступае і палітыка савецкага ўрада ў нацыянальным пытанні. Змагаючыся супраць занядбання, ахайвання беларускай мовы і культуры, пісьменнік разам з тым змагаўся з рознымі праяўленнямі фармалізму ў правядзенні беларусізацыі, з бессэнсоўнасцю, нездаровай атмасферай у крытыцы, якая патрабавала спрошчанага, прасталінейнага падыходу да многіх, важных для беларусаў, тагачасных праблем. Змястоўныя фельетоны пра беларусізацыю – сапраўдная сатыра, вобразная, доказная, таленавітая. Гэта першыя ў беларускай прозе творы, дзе сродкамі сатыры аўтар раскрывае востранадзённыя для ўсіх этапаў нашага жыцця нацыянальныя праблемы. Гэта своеасаблівая і даволі рэдкая форма адносін мастака да рэчаіснасці, дзе зброяй сатыры, бязлітаснага высмейвання, сілай абурэння, гневу ідзе барацьба са злом у імя нацыянальнай ідэі.

Вось за гэты талент, за вернасць нацыянальным ідэям Лявон Савёнак у 1929 г. быў звольнены з працы ў газеце як "нацдэм". Кніга "Чароўная іголка" амаль адразу па выхадзе ў свет была забаронена, а наклад знішчаны. Так ужо напачатку 30-х гадоў пачалі вынішчацца беларускія таленты і іх творы. Разам з тысячамі лепшых прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі Лявон Савёнак быў арыштаваны і высланы ў ГУЛаг (1933-1939). Жонка з дзецьмі, баючыся рэпрэсій, вымушана была пакінуць Менск і выехаць у Крычаў. Сюды да сям'і і вярнуўся Лявон Савёнак пасля ГУЛагу. Але пісаць ён не пакідаў, хаця друкавацца "нацдэму", "ворагу народа" было немагчыма.

Вайну сям'я Савёнкаў перажывала ў Менску. З 1942 года, калі пачала выходзіць "Беларуская (Менская) газэта", пісьменнік друкуе на яе старонках новыя фельетоны, артыкулы і славуты "Дзённік Чужанінава", ужо пад псеўданімам - Лявон Крывічанін.

Развітанне з радзімай для пісьменніка ў 1944 годзе сталася назаўсёды. Апынуўшыся, як і многія беларусы, спачатку ў Нямеччыне, затым у ЗША, Лявон Савёнак і тут актыўна, разам з жонкай (Апалёнія Радкевіч, дарэчы, аўтар падручніка "Беларускі лемантар" для малодшых класаў), уключыўся ў беларускія справы. Быў арганізатарам і дырэктарам Беларускай гімназіі, працаваў на адукацыйных курсах для дарослых, друкаваўся ў многіх эміграцыйных выданнях, быў сябрам Беларускага Нацыянальнага Цэнтру, які спавядаў ідэі нацыянальнай незалежнасці Беларусі. Прымаў самы непасрэдны ўдзел у адраджэнні Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, уваходзіў у камісію па перакладу Бібліі, быў сябрам БНР, разам з іншымі ствароў Камітэт Незалежнай Беларусі, стаў сябрам Цэнтральнага Камітэту Аб'яднання беларускіх нацыянал-дэмакратаў, некаторы час рэдагаваў газету "Беларус", пісаў артыкулы ў еўрапейскія даведнікі пра Беларусь. Сям'я Савёнкаў, як і Кіпеляў, наогул, знаходзілася ў цэнтры амерыканскага беларускага зямляцтва. Цесныя сяброўскія адносіны звязалі сем'і Савёнка і Васіля Стомы (Сініцы), аўтара ўспамінаў "Маё мястэчка", дзе з вялікім замілаваннем і любоўю апісваецца Глыбокае – агульная далёкая радзіма і Л. Савёнка і В. Стомы. Духоўнае раства існавала паміж Л. Крывічаніным і выдатнымі дзеячамі – кампазітарам М. Равенскім, Ант. Адамовічам, А. Калубовічам, М. Паньковым, І. Плашчынскім (брат Язэпа Пушчы), многімі іншымі актыўнымі дзеячамі беларускага замежжа.

Памёр Лявон Савёнак на 77 годзе жыцця (21 лютага 1974) і пахаваны на беларускіх могілках у Іст-Брансвіку, дзе пазней, побач з ім знайшла вечны спакой і яго жонка, верная спадарожніца жыцця.

Творчасць Лявона Крывічаніна вылучаецца не колькасцю напісанага, а высокай якасцю, майстэрствам пісьменніка-сатырыка. Быццам атмасферу нашага сённяшняга дня раскрываюць фельетоны пра беларусізацыю, якая ў нас праводзілася ў чарговы раз напачатку 90-х, калі беларусам далі дыхнуць вольным паветрам і беларуская мова атрымала статус дзяржаўнай. Але сёння, нажаль, застаюцца пакуль што надзённымі радкі М. Багдановіча пра беларускі народ і яго "апекуноў": "Табою заўжды пагарджалі, цябе не пушчалі з ярма", як і балючы роздум М. Танка "пра ўласных юдаў", якія разам з "апекунамі" вельмі хутка, кажучы словамі Янкі Купалы, "забіллі трывогу аб той мове, якой азваўся беларус". І пачалося амаль тое ж, што так выразна праўдзіва апісана ў сатырах Л. Крывічаніна пра беларусізацыю 20-х г. Пагарджаючы беларускай мовай, чыноўнікі ўсіх рангаў робяць усё магчымае, каб знішчыць яе зусім. Яны радуюцца, чытаючы пра выныкі беларусізацыі з "Савецкаай Беларусі": "Красата, а ня выныкі. І ўсё нашы спэцы. Ніводзін ня хоча беларусізавацца. Усе працуюць на "общепонятном". Стойкія рабяты, люблю за гэта. А што наконт канчатковай беларусізацыі летам, дык зноў жа абсурд. У Менскіх акруговых установах добра ведаюць беларускую мову толькі 4 проц. усіх работнікаў.

Гэта – за пяць гадоў беларусізацыі. Калі ў такой прагрэсіі будзе ісці далей, дык усе 100 проц. будуць ведаць беларускую мову праз 125 гадоў. Во! А кажуць – летам канчаткова. Запужваюць, а нам ня страшна, патаму мы лічбамі апэрыруем..." ("Рассуждения о белорусизации"). Даходзіла да абсурду сапраўды. На пошце ў Слуцку чыноўнікі не ведалі, што азначае слова "мытня", доўга шукалі чалавека з такім прозвішчам. Многія "спэцы" пачалі патрабаваць, каб за вывучэнне беларускай мовы ім плацілі "прыбавачку", як за вывучэнне чужаземнай. ("Таварыш Мытніца"). Некаторыя чыноўнікі даказвалі, што беларусы пайшлі не ад Авеля – "беларусы – конская роду", а таму "і язык іх лашадзіны" і таму сталі задумвацца, як змагацца за "великое дело вызволения Полоцкой Руси от белорусского ига"... ("Трагеныя чыноўніцкай душы").

Сёння творы Лявона Крывічаніна вярнуліся на радзіму, арганічна ўпісаліся ў айчынны літаратурны працэс, істотна ўзбагацілі сатырычную плынь сучаснай беларускай прозы, каб зброяй сатыры працягваць змаганне за беларускую справу, якой прысвяціў усё сваё жыццё таленавіты беларускі пісьменнік.

*Лідзія Савік.*

# Прэзідэнт Беларусі Лукашэнка «выключае» інтэлігенцыю сваёй краіны

***Томас Вольфарт, Potsdamer Neueste Nachrichten***

(...) Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка зноў прадэманстраваў, хто ёсць гаспадар у хаце. У красавіку ён завалодаў усімі часопісамі Саюза беларускіх пісьменнікаў, прызначыўшы Сяргея Касцяна, свайго вернага паслядоўніка, кіраўніком холдынгу, якому зараз будуць падначалены ўсе літаратурныя часопісы. Рэдакцыі адносна незалежных дасюль часопісаў "Полымя" і "Крыніца", якія публікавалі найперш сучасныя творы беларускіх пісьменнікаў, літаратуразнаўчыя і крытычныя матэрыялы, а таксама творы маладых аўтараў, цяпер можна лічыць таксама далучанымі да дзяржаўнай ідэалогіі.

Новаму кіраўніку будзе падпарадкоўвацца і "Нёман", рускамоўны часопіс Саюза пісьменнікаў. Гэты кіраўнік ужо 18 красавіка абвясціў у штотыднёвіку беларускіх прадпрымальнікаў "Белорусская деловая газета", у якім кірунку будуць рухацца часопісы, і у гэтых сваіх першых выказваннях дыфамаваў самага вядомага прадстаўніка беларускай літаратуры Васіля Быкава, што жыве зараз выгнаннікам у Германіі: "Гэтак сама, як Салжаніцын, што пабадзяўшыся па Еўропе, вярнуўся да матулі Расіі, вернецца дадому і Быкаў. Там ён нікому не патрэбны, а тут ён ужо страціў аўтарытэт. Яго больш ніхто не хоча чытаць, у тым ліку і ў школе."

Гэтыя крокі вызначаюцца пэўным метадам: Лукашэнка ўдушае беларускую мову, імкнецца да ўз'яднання з Расіяй, хоча стаць потым прэзідэнтам Вялікай Расіі. Нарастаючыя настойлівыя захады беларускай інтэлігенцыі па захаванні незалежнасці зусім нядаўна створанай дзяржавы, уласнай мовы і гісторыі з'яўляюцца перашкодай на гэтым шляху. Прэзідэнт заявіў, што ў свеце ёсць толькі дзве мовы, вартыя таго, каб на іх гаварылі: ангельская і руская. Усё часцей здараюцца напады на прадстаўнікоў дэмакратычна настроенай інтэлігенцыі, у прыватнасці пісьменнікаў і мастакоў.

З гэтага года ў школах адмяняецца іспыт па беларускай літаратуры. Яшчэ ў 1997 годзе у Саюза беларускіх пісьменнікаў адабралі ўласны будынак – дом, у якім адбываліся сустрэчы і іншыя мерапрыемствы, дзе праводзілася работа з падрастаючай літаратурнай зменай. І фінансаванне штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва" будзе ажыццяўляцца далей толькі пры ўмове, калі Саюз пісьменнікаў адмовіцца ад сваіх правоў заснавальніка ў дачыненні да зместу выдання. Старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Вольга Іпатава, вядомая і ў Германіі аўтарка, разам з многімі сваімі калегамі назвала гэты новы акт дзяржаўнага гвалту цынічным, яна рашуча пратэстуе супраць "антынацыянальнай палітыкі органаў улады Беларусі": "Хаця гэтая мужная жанчына за час свайго старшынёўства здолела шляхам перамоў з уладамі зноў дабіцца для пісьменнікаў магчымасці публічна выступаць у вёсках і гарадах Беларусі, але тое, што адбываецца зараз, ёсць вынішчэнне "духоўнай апоры беларускага народа – ягонай літаратуры, таму што губляецца кантакт з чытачом".






# 120 гадоў з дня нараджэння Янкі Купалы

## Янка Купала і незалежнасць Беларусі

2 ліпеня адбылася навукова-практычная канферэнцыя на тэму "Янка Купала і незалежнасць Беларусі", якую да 120-х угодкаў зладзіў Грамадскі камітэт па ўшанаванні памяці народнага паэта. Было рэпрэзантавана 9 дакладаў. Сярод выступоўцаў – Рыгор Барадулін, Вольга Іпатава, Пётра Садоўскі, Вячаслаў Рагойша, Уладзімір Конан, Вінцук Вячорка. Найбольшую цікавасць удзельнікаў канферэнцыі выклікалі спавешчанні Анатоля Сідарэвіча "Янка Купала і дыктатура" і Віталя Скалабана "Янка Купала ў 30-я гады. Новыя матэрыялы" якія адкрылі нікому невядомыя старонкі біяграфіі паэта. Ад Таварыства беларускай мовы з дакладамі выступілі Алена Анісім і Уладзімір Содаль. У дыскусіі бралі ўдзел Алег Трусаў і Людміла Дзіцэвіч, старшыня і намеснік старшыні Таварыства.

***Наш кар.***

## Жыццёвымі сцежкамі Купалы і Коласа

Па ўсёй краіне зараз праходзяць урачыстыя мерапрыемствы, прысвечаныя 120-гадоваму юбілею з дня нараджэння народных песняроў Беларусі – Янкі Купалы і Якуба Коласа. Не стала выключэннем Магілёўская СШ № 35, якая ў апошні час стала своеасаблівым цэнтрам нацыянальнай культуры. У мінулым годзе тут прайшлі творчыя сустрэчы з вядомым беларускім паэтам Генадзем Бураўкіным, старшынём Саюза беларускіх пісьменнікаў Вольгай Іпатавай. А заслужаны дзеяч культуры Валянцін Іванавіч Ермаловіч стаў ужо пастаянным госцем у школе.

Своеасаблівае завочнае падарожжа стала сапраўдным святам для вучняў і настаўнікаў. Наладзілі творчы вечар суполка грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" і метадычнае аб'яднанне настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры СШ № 35.

У падарожжа накіраваліся сем вучнёўскіх каманд. А шаноўнае журы ўважліва глядзела і ацэньвала. Дарэчы, склад яго быў вельмі прадстаўнічы: дацэнт кафедры славянскай філалогіі МДУ імя А. А. Куляшова Клімуць Яраслаў Іванавіч, заслужаны дзеяч культуры Беларусі Ермаловіч Валянцін Іванавіч, метадыст райаддзела адукацыі Малей Галіна Данілаўна, былы вучань школы, актыўны грамадскі дзеяч, прадстаўнік арганізацыі "Аматары "Беларускага кнігазбору" Алег Дз'ячкоў, намеснік дырэктара СШ № 35 Шэпелева Ганна Леанідаўна.

Самая малодшая ўдзельніца свята Несцяровіч Каця павітала шаноўных гасцей хлебам-соллю. А потым пачалося і само падарожжа.

Дзядзька Антось на першым прыпынку "Жыццёвыя сцежкі" прапанаваў вучням ўспомніць звесткі з біяграфіі пісьменнікаў. Затым на свята завітала прыгажуня Паўлінка. І ўдзельнікі праінсцэнавалі найбольш цікавыя адрыўкі з бессмяротных твораў народных песняроў. Сымон-Музыка і Ганна з'явіліся на сцэне: надышоў час спяваць. "Мой родны кут, як ты мне мілы", - чулася лірычнае слова вучняў. І, нарэшце, апошні прыпынак – "Купала і Колас у мастацтве". На ім удзельнікі прадэманстравалі гледачам і журы свае малюнкі і газеты, прыгадалі творы вядомых мастакоў, успомнілі, як на Беларусі і ў іншых краінах свету ўшаноўваецца памяць народных песняроў. Журы было вельмі цяжка вызначыць пераможцаў: усе каманды былі па-свойму арыгінальныя. А пакуль гледачы чакалі вынікаў, узор майстэрства мастацкага слова прадэманстраваў Валянцін Іванавіч Ермаловіч. Як і заўсёды, яго выступленне было вельмі эмацыянальным і перапоўненая актавая зала літаральна "ўзарвалася"! Потым Міла Гардзіенка праспявала бураўкінскі "хіт" "Я ўдзячны лёсу", а Лапцева Аксана прачытала свой уласны верш "Мой любімы паэт", прысвечаны Янку Купалу. Прагучалі ў выкананні вучняў і іншыя вершы, што вельмі паказальна: беларускую літаратуру ў школе вучні любяць.

І вось, нарэшце, надышоў час падвядзення вынікаў. Больш за ўсё "каласочкаў-сімвалаў" атрымала каманда 7 "Ж" класа "Купалінка". Пераможцам дастаўся галоўны прыз – смачны беларускі пірог. Але ўсе без выключэння ўдзельнікі свята атрымалі ў падарунак беларускія кнігі і паштоўкі.

Тры гадзіны праляцелі непрыкметна. Надышоў час развітання. Безумоўна, са спадзяваннем на новую хуткую сустрэчу на ростанях беларускай нацыянальнай культуры. Якая, верыцца, гледзячы на творчы энтузіязм арганізатараў, абавязкова адбудзецца.

***Яўген Задзіран,***
*кіраўнік суполкі Грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны" СШ №35 г. Магілёва.*

## *Зборнічак песень на словы Янкі Купалы*

Пётра Русаў

**НАД СВАЁЙ АЙЧЫЗНАЙ**

Зборнік песняў на вершы Янкі Купалы



Да 120 годдзя з дня народзінаў народнага паэта Беларусі Янкі Купалы ў выдавецтве "Белфранс" выйшаў зборнічак песень барда, старшыні Заводскай рады ТБМ г. Менска Пятра Русава на словы Янкі Купалы "Над сваёй Айчызнай". У зборнік увайшло восем песень: "Зоркі", "З вячэрніх дум", "Заручыны", "А яна", "Перад ночкай", "Дзве таполі", "Я ад вас далёка", "Над сваёй Айчызнай".

Пятро Русаў падрыхтаваў таксама і канцэртную праграму па творах Янкі Купалы.

**На здымку:** 6 ліпеня на Рэспубліканскім свяце паэзіі ў Вязынцы Пятро Русаў ставіць аўтограф на сваёй кніжцы.

***Наш кар. з Вязынкі.***

## *Рэспубліканскае свята паэзіі ў Вязынцы*





**На канцэртных пляцоўках Вязынкі**



**"Саламяны" кірмаш**



**У садочку**

Вітаўт Мартыненка

# "Знайсці і адчуць свята"

"Крамбамбуля" (застольны альбом), Мн. 2002, West Records.

Няўдзячная гэта справа – спрэчка, але так атрымалася, што гэты цудоўны СД я набыў 9 чэрвеня, адразу пасля бязмэтнага блукання па тэлеканалах у шэры выхадны дзень: "НТБ" раздзіралася жудаснымі японскімі пагромамі ў Маскве з-за пройгрышу расейскіх футбалістаў на чэмпіянаце свету (перавернутыя тралейбусы, палаючыя машыны, забітыя людзі), а СТБ сціпла круціла ў "Трох гітах: Алькатраса" фрагменты гэтай самай "Крамбамбулі":

***На ўсходзе Расея***
***Ізноў вар'яцее.***
***Эўропу заносіць***
***То ўлева, то ўправа,***
***А Пане Каханку***
***Ня піў валяр'янку,***
***Ба піў крамбамбулю***
***Пад смачныя стравы.***

Ну як тут было не прыгадаць рэцэнзію Алега Клімава ў "Музыкальной газете" ( № 18 за 7.05.2002 г.): "У "Крамбамбулі", калі не браць павелічальнае шкло, нейкіх палітыка-сацыяльных матываў вы не сустрэнеце... Кружэлка атрымалася лёгкай, вясёлай..."

Ды якое ўжо там павелічальнае шкло. Трэба проста слухаць не толькі вушамі, але і душой. Лявон Вольскі, бадай, і піша свае рок-тэксты душой, шчыра рэагуючы на суровыя рэаліі жыцця. І я б не стаў вышукваць адмыслоыа ў гэтым унікальным альбоме застольных песень нешта звыкла палітызаванае для музыкаў "NRM", "Уліса", "Hasta la fillsta", "ZET", але калі гэтую палітыку спачатку прышываюць белымі ніткамі і выключна беларускамоўным рок-зоркам), а потым дэманстратыўна адпорваюць, дык як не знайсці акурат палітычны аргумент супраць тых, каму карціць вярнуцца ў "савецкі рай", у пародыі на тадышнія ВІА "Савецкае шампанскае":

***Чорнае мара, белы параход,***
***Сіняе неба, белы самалёт,***
***Савецкае шампанскае,***
***чорная ікра-***
***Гэта ўсё міраж.***

Так, гэта ўсё было: і савецкая шампанскае па 3,67, і чорная ікра па 5,50, і сервілат пяцірублёвы і адпачынак на Чорным моры, але ці для ўсіх? Хіба не памятаеце "прадуктовыя заказы для трудзяшчыхся", калі да кіло той каўбасы трэба было замовіць або мінулагодні таматны сок, або чорны (толькі без водару) грузінскі чай, або збор твораў Л. І. Брежнева. Калі не ставала грошай на ўвесь дадатак, можна было бясплатна паглядзець на каўбасу ці пераканацца, як выглядае хоць бляшанка тае ікры. Для астатніх... гэта ўсё міраж.

Зрэшты, альбом сапраўды не надта палітызаваны (як і ўся творчасць Лявона Вольскага і сяброўдэгустатараў усемагчымых сусветных напояў), але факт: пры Саветах яго б дакладна забаранілі. А хто дазволіў бачыць Беларусь у сусветным кантэксце (французы, грэкі, ірландцы, немцы, мексіканцы, манголы, афрыканцы) ды яшчэ са сваімі велічнымі традыцыямі?

Цікава: як толькі дыск з'явіўся ў продажы, адзін мой сябра купіў яго не столькі дзеля музыкі, а каб прачытаць рацэпт і зварыць тую самую старажытную беларускую крамбамбулю, якую піў сам Радзівіл. А той жа піў яшчэ і крупнік, пакаштаваць якога збіралася на Купаллях у Вязынцы беларуская моладзь яшчэ ў 80-90-х гадах мінулага стагоддзя (слухайце і чытайце дыск С. Сокалава-Воюша "Нефармальны беларус", дзе ёсць песня "Крупнік", якая б падышла і ў гэты "застольны альбом"). Дык вось мой сябар, зварыўшы крамбамбулю, быў проста ў захапленні, падмацаваным... музыкай. У змястоўных і каларытных паліграфічных матэрыялах выдання (20-старонкавы каляровы буклет, двухбаковы тыльнік) падрабязна распісаны ўвесь аўтарска-выканальніцкі кантынгент. І калі інфармацыі пра стваральнікаў альбома можна верыць (Лявон Вольскі, А. "Ганс" Быкаў, Сяргей Кананові, Масуд Талібані, Кірыла Насаеў ды іншыя вядомыя музыкі), дык спіс аўтараў выглядае проста смелым жартам, дзе за Б. Дыянісам, аўтарам грэцкай песні "Прадай каня, купі віна" ў пераказе Лявона Вольскага, чытаецца не хто іншы, як віначэрп бог Дыяніс. А ў аўтары беларускамоўнага нямецкага бір-зонга Ф. Куфалю прачытваецца намёк на знакамітага дзеяча беларускай эміграцыі Францішка Кушаля. Зразумела, хочацца спадзявацца, што лёс аўтара заўзятых цыганскіх напеваў Б. Гарачкі "Нам гарэлкі будзе мала" абмінула тая самая белая гарачка, як і ягонага іспанскага супляменніка. П. Чыроза – цыроз печані ад "Грапа, к'янці і марціні" з чыстым спіртам. У крайнім выпадку хай параяцца з мангольскім бражнікам ("Кумыс" Ю. Нацадзіў – гэта вам не А. Цэвэнгжоў), які ведае і смак, і карысць, і меру, таму не едзе ў горад, бо...

***Там народ гарэлку п'е,***
***П'е гарэлку, морды б'е –***
***Гэта ўсё не для мяне.***

Спадзяюся, чытач ужо адчуў настрой альбома і ягонае небанальнае ўвасабленне. Што да стылістыкі, дык нездарма "Крамбамбулю" параўноўваюць з такімі прадуктамі, як "Народны альбом" (трыумфатар "Рок-Каранацыі - 1997"), "Я нарадзіўся тут" (падзея года ў 2000), дый "Святы вечар – 2000", які ўскалыхнуў усіх у 1999. Гэта вечныя беларускія песні пра вечнае. Песні на штодзень, бо кожны дзень у кагосьці бывае якое-небудзь свята. Трэба толькі яго знайсці і адчуць.

***Вітаўт Мартыненка.***

# "Спевы пра даўніх ліцьвінаў да 1434 года"

## XXV. Старыя Трокі

**Словы Я. Чачота** **Муз. П. Русава**
**Пераклад з польскай С. Судніка**

Умерана

Пад вя-чэр - нім яс-ным не - бам цень сі - во - га
мні - ха на ва-лах за - дзір - ва - не - лых
мо-ліць Бо - га ці - ха. Не так ко - лісь
тут бы-ва - ла пры князь - Ге - ды - мі - ну,
як па ло - вах ба - ля - ва - ла кня - жа - я дру-
-жы - на. Тру - бы тру - бяць, ту - раў ро - гі
там пя - юць і гра - юць, сар - наў сма - жаць
і мядз-ве - дзяў, мё - дам за - пі - ва - юць.

Пад вячэрнім ясным небам цень сівога мніха
На валах задзірванелых моліць Бога ціха.
Не так калісь тут бывала
пры князь - Гедыміну,
Як па ловах балявала княжая дружына.
Трубы трубяць, тураў рогі
там пяюць і граюць,
Сарнаў смажаць і мядзведзяў,
мёдам запіваюць.

Спадабалася надзвычай
князю ў той мясціне,
Абнясе яе ён валам і муры падыме.
А што звера поўна ў трокі тут панабівалі,
Новы замак на тым месцы
Трокамі назвалі.
Нават з Кернава сталіцу
перанеслі ў Трокі,
Вяллі бераг Гедыміну добра ўпаў у вока.

Князь Кейстут там княжыў потым, між азёрных водаў
Збудаваў ён новы замак на даўгія годы.
Сёння ордэн Бенедыкта тут снуе аснову,
Мо за княжацкія душы хто замовіць слова.
Пад вячэрнім ясным небам цень сівога мніха
На валах задзірванелых моліць Бога ціха.

## Геаграфічныя назвы - гістарычна-культурныя помнікі

25 чэрвеня адбылося пасяджэнне Рэспубліканскай тапанімічнай камісіі пры НАН Беларусі. У ім бралі ўдзел старшыня камісіі доктар філалагічных вывук В.П. Лемцюгова, вучоны сакратар кандытат філалагічных навук І. Л. Капылоў, доктар гістарычных навук Л. М. Лыч, кандытат гістарычных навук Л. Р. Казлоў, загадчык аддзела выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя" Л. В. Календа, археолаг П. А. Русаў. Падчас пасяджэння былі падведзены вынікі "круглага стала" ў рэдакцыі "Звязды", абмеркаваны прапановы да будучага Закона аб геаграфічных назвах, а таксама акрэслена далейшая дзейнасць камісіі.

Сябры камісіі адзначылі, што "круглы стол" па праблемах правапісу геаграфічных назваў Беларусі выклікаў шырокі рэзананс у грамадстве. У выніку такога зацікаўленага абмеркавання акрэсліўся падыход да вырашэння праблемы ўнармавання нацыянальнай тапаніміі, што несумненна становча паўплывае на падрыхтоўку выдання нарматыўных даведнікаў населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь. Удзельнікі нарады выказалі спадзяванне на тое, што спыненае выданне даведніка па Менскай вобласці ў хуткім часе ўбачыць свет

У часе абмеркавання будучага Закона аб геаграфічных назвах прагучала вельмі слушная прапанова пра тое, што ўласным геаграфічным назвам павінен быць нададзены статус гістарычна-культурных помнікаў.

***Наш кар.***

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by
http://tbm.org.by/ns/

*Рэдакцыйная калегія:*
Алена Анісім, Вадзім Болбас, Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 8. 07. 2002 г.
Наклад 2400 асобнікаў. Замова № 1273.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 489 руб., 3 мес.- 1467 руб.
*Кошт у розніцу:* 120 руб.